# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1993 СНЕЖАНЬ 17 Пятніца

№ 239 (674)

Цана 30 рублёў


## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

*ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ*

### СВЯЗИСТЫ ПРОДОЛЖАЮТ СОТРУДНИЧАТЬ

17-18 декабря в Минске пройдет очередная встреча Совета глав администраций связи и полномочных представителей регионального содружества в области связи.

Это уже десятая встреча руководителей-связистов новых независимых стран. Ее участники обсуждают вопросы взаимодействия, концепцию взаимоувязки сетей связи в СНГ, соглашение по сохранению надежности работы национальных и межнациональных сетей связи в чрезвычайных ситуациях. В повестке дня также участие стран СНГ в российской «Программе развития системы спутниковой связи и вещания на 1992-2000 годы», соглашение о координации научно-исследовательских работ. Будет продлено на новый срок соглашение по координации в межгосударственной почтовой связи. Совет, между прочим, обсудит вопрос о приеме в качестве наблюдателя государственного предприятия «Эстонская почта».

А перед этим прошел семинар по сотовым системам подвижной радиосвязи. Кроме руководителей-связистов из бывших советских республик, в нем участвовали представители государственных и частных предприятий связи США, комитета по международной связи и информационной политике Госдепартамента США. Это очередное мероприятие программы технического сотрудничества, которая получила название «Голубая лента». Встречи и семинары «Голубой ленты» уже проходили в Москве, Киеве, Ташкенте. К семинару в Минске американская сторона подготовила обширную информацию об опыте США и других стран в области систем сотовой и беспроводной связи.

Совет регионального содружества в области связи рассмотрит, как реализуется программа «Голубая лента», и наметит планы технического сотрудничества на 1994 год.

**Андрей ПОТРЕБИН.**

### «Крестьяне» всех регионов, съезжайтесь!

**Белорусская Крестьянская партия готовится к III съезду, который состоится 18 декабря в Минском Доме литератора.**

**Ожидается, что в работе форума БКП примут участие около 220 делегатов со всей Беларуси.**

**В качестве гостей приглашены единомышленники из России, Украины и Польши, а также представители белорусских партий и движений национально-демократического направления.**

**Хотя судьба весенних выборов в Верховный Совет до конца не решена, Крестьянская партия планирует выработать и всесторонне обосновать свою предвыборную платформу. Кроме того, будут внесены изменения в устав и приняты резолюции по нынешнему экономическому и политическому положению в Беларуси.**

**Юрий ЛЕШКЕВИЧ.**

### Новые защитники жертв политических репрессий

Координационный комитет Народного движения Беларуси своим решением создал на днях «Комитет по защите гражданских, политических прав и жертв политических репрессий».

В его состав вошли, по сведениям агентства РИД, редактор газеты, член Думы Славянского Собора «Белая Русь», сотрудник НИИ Минюста РБ, народный депутат Верховного Совета РБ, замначальника Академии милиции, адвокат Минской коллегии, профессор БГУ. 4 из 7 членов комитета — дипломированные юристы.

**Антон ТОЧНЯК.**

### ЭХ, ДОРОГИ...

*В условиях галопирующих цен агентство РИД констатирует факт очередного повышения тарифов на перевозки пассажиров в автотранспорте междугородного сообщения.*

*Так, с 15 декабря за 1 км пути в жестком автобусе гражданам придется платить уже 45, а в мягком — 50 рублей.*

*Как сообщили корреспонденту агентства в ПО «Минскпассажиравтотранс», в ближайшее время вполне возможно подорожание услуг также на пригородный и городской транспорт.*

**Сергей РАСОЛЬКО.**

### ПАЎТЫСЯЧЫ ЗА КІЛАМЕТР? БУДЗЕ БОЛЬШ

З 16 снежня мінскія таксісты аказваюць свае паслугі па тарыфу 700 рублёў за кіламетр, столькі ж каштуе пасадка, час прастою — 7 тысяч. Такім чынам, былая цана ў 500 рублёў працягвалася ўсяго месяц.

Паслугі таксі растуць у сярэднім на сотню-другую ў месяц. Сёння ў гэтага — цяпер недасягальнага для большасці насельніцтва віду «грамадскага» транспарту — склаўся свой кантынгент кліентаў: бізнесмены, фірмачы, якім па кішэні праезд у машыне з зялёным агеньчыкам.

**Ірына СЯРОПНА.**

### КОРАТКА

Савет Міністраў Беларусі прыняў прапанову Міністэрства культуры аб перайменаванні Дзяржаўнага мастацкага музея ў Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь.

* * *

Предрождественская выставка-продажа произведений живописи, графики, скульптуры, декоративно-прикладного творчества открылась в столичном Дворце искусств.

В качестве рождественского или новогоднего подарка можно приобрести работы ведущих мастеров Беларуси. По сведениям агентства РИД, подобные распродажи станут традиционными.

* * *

Минская община сознания Кришны продолжает посылать в различные высокие инстанции обращения-протесты против действий Минской городской прокуратуры, которая предъявила иск о прекращении деятельности этой религиозной организации в Минске. Так, новое обращение от кришнаитов отправлено Председателю Верховного Совета Республики Беларусь С.С.Шушкевичу, в Европейскую комиссию по правам человека, в Представительство ООН в Вене, а также представителям иностранных посольств. Верующие общины считают действия прокуратуры незаконными.

### КУРС ОБМЕНА наличной валюты в обменных пунктах коммерческих банков г.Минска и официальный курс, установленный Национальным банком на 17 декабря 1993 года

| Наименование банка | Доллар США | | | Немецкая марка | | | Российский рубль | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Покупка | | Продажа | Покупка | | Продажа | Покупка | Продажа |
| | Наличный расчет | Чековая книжка | | Наличный расчет | Чековая книжка | | | |
| АРКБ "Комплекс" | 5200 | 5720 6700 | 5390 | 3000 | 3300 3750 | 3150 | 3.75 | 3.95 |
| АКБ "Белвнешэкономбанк | 5100 | 5665 | 5500 | 3001 | 3101 | 3205 | 3.70 | 4.07 |
| АКБ "Белорусский народный банк" | 5100 | ** | 5550 | 2960 | --- | 3250 | 3.75 | --- |
| АКБ "Белпромстройбанк" | 5300 | 6300 | 5600 | 3050 | ** | 3150 | 3.70 | 4.10 |
| АКБ "Беларусь" | --- | 6586 | --- | --- | 3827 | --- | --- | 4.80 |
| ГКБ " Сбербанк" | 5210 | 5305 | 5310 | 2985 | 3125 | 3280 | 3.65 | 4.10 |
| АКБ "Приорбанк" | 5280 | 5805 | 5380 | 3085 | 3390 | 3145 | 3.50 | 4.50 |
| КБ "ПРОФБАНК" | --- | 6500 | --- | --- | 3800 | --- | 3.85 | 4.35 |
| КБ "Северо-Запад" | --- | 6272 6468 | --- | --- | 3626 3724 | --- | --- | --- |
| АКБ "Белбизнесбанк" центр. отд. | 5200 | ** | 5700 | 2960 | ** | 3380 | 3.95 | 4.30 |
| Национальный банк РБ | 7480.00 | | | 4358.97 | | | 4.51 | |

** -- не принимают

Информация (на 9 час. 45 мин.) подготовлена "Агентством Гревцова".

## ДЗЕЛАВЫ МІНСК

### НА КОЖНАЙ СЕСІІ — НОВЫ ПАДАТАК?

**Міхаіл ВАЛЬКОЎСКІ, «ДВ».**

**Старшыня рабочай групы па ўдасканаленню падатковага заканадаўства Беларускай канфедэрацыі прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў А.Калінін пазнаёміў на брыфінгу з вынікамі абмеркавання ў Вярхоўным Савеце прапаноў канфедэрацыі.** А вынікі гэтыя выклікаюць засмучэнне і тугу: народныя дэпутаты не разглядалі ўсе прапановы цалкам, а толькі асобныя, прычым выбіралі іх без усялякай сістэмы. У актыў можна занесці хіба што зніжэнне ставак падатку на дададзеную вартасць да расійскага ўзроўню — да 20 працэнтаў. Затое ствараюцца пазабюджэтныя фонды мясцовых Саветаў для фінансавання трат на ўтрыманне ведамасных жылых дамоў. Прадпрыемствы і ўстановы ўсіх форм уласнасці на працягу наступнага года будуць адлічваць у іх адзін працэнт выручкі ад рэалізацыі прадукцыі, работ і паслуг. (Такі фонд будзе створаны і Мінгарвыканкамам.) Па падліках А.Калініна, гэта аналагічна 3-3,5 працэнтам падатку на дададзеную вартасць. Адной рукой знізілі падатак, другой — увялі па сутнасці новы...

Не разгледзелі дэпутаты і прапановы рабочай групы па зніжэнню падаходнага падатку з грамадзян (па прапанове старшыні планавай і бюджэтна-фінансавай камісіі Р.Унучкі, які вельмі спяшаўся ў адстаўку, каб паспець заняць месца кіраўніка камерцыйнага банка, яго перанеслі на наступную сесію. А трэба абавязкова разгледзець на гэтай).

Канфедэрацыя пры разглядзе Закона Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўным бюджэце на 1994 год» таксама прапануе абавязкова скасаваць рэспубліканскі пазабюджэтны фонд рэгулявання рознічных цэн (сапраўды, што сёння рэгулюецца акрамя цэн на малако?), знізіць стаўку надзвычайнага падатку (з-за якога прадукцыя беларускіх прадпрыемстваў зрабілася неканкурэнтаздольнай на расійскім рынку). Прапанавана таксама ўраўняць узносы на дзяржаўнае страхаванне і ў дарожны фонд з прынятымі ў Расіі.

На думку А.Калініна, з-за некампетэнтнасці, няўважлівасці, бязглуздасці шэрагу нардэпаў прыкрая памылка зроблена ў прынятым на гэтай сесіі Законе «Аб падатку на паліва». І замест зніжэння яго ў два разы (з 20 да 10 працэнтаў) сума падатку фактычна ўзрасце і складзе (па яго падліках) не менш 57 працэнтаў цаны вытворцы. Значыць, паліва стане даражэй, як і ўся астатняя прадукцыя.

Так што, грамадзяне-падаткаплацельшчыкі, шмат чаго прынята новага, але пакуль — амаль нічога добрага.

### КАЛЯНДАР

*СОНЦА — 8.35/15.48.*
*Даўжыня дня — 7.25.*
*МЕСЯЦ — маладзік 13 снежня,*
*усход 9.22/захад 19.00.*

ІМЯНІНЫ

*Сёння:*
*Праваслаўныя — Варвары Вялікамучаніцы, Івана, Юльяны.*
*Каталіцкія — Алімпіі, Лазара.*

*Заўтра:*
*Праваслаўныя — Анастасія, Гурыя, Савы.*
*Каталіцкія — Аўксэнцыя, Багуслава, Грацыяна.*

*У нядзелю:*
*Праваслаўныя — Мікалая Свяціцеля.*
*Каталіцкія — Дарыя, Элеаноры;*

4-Я НЯДЗЕЛЯ АДВЭНТУ.



## ГРАМАДА

### УРОКІ РАСІЙСКІХ ВЫБАРАЎ ДЛЯ БЕЛАРУСКІХ ДЭМАКРАТАЎ

**Таццяна ЛАЗОЎСКАЯ, «ДВ».**

Учора адбылося чарговае пасяджэнне палітычнага клуба Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі. Удзельнікі яго абмеркавалі папярэднія вынікі выбараў у Расіі, зрабілі адпаведныя высновы, спрагназіравалі выбарчую сітуацыю на Беларусі.

У ліку прычын, у выніку якіх перамогу атрымала партыя Жырыноўскага, называліся некалькі. Добра арганізаваная перадвыбарчая кампанія Ліберальна-дэмакратычнай партыі Расіі, недасведчанасць большасці расіян у сутнасці палітычных поглядаў Жырыноўскага, удзел у выбарах у асноўным людзей пажылога ўзросту, пенсіянераў. А галоўнае, бадай, у тым, што Жырыноўскі даў простае тлумачэнне складаных праблем. І людзі пайшлі за ім таму, што стаміліся ад страху перад узрастаючай злачыннасцю, стратай работы, няпэўнасцю сацыяльна-эканамічнага становішча. Дарэчы, як сведчыць гісторыя, у крызісныя перыяды заўсёды з'яўляліся дыктатары, якія абяцалі простае вырашэнне, здавалася б, невырашальных праблем.

Народ Расіі зрабіў свой выбар — яго права. А што чакае Беларусь? Таксама дыктатар фашысцкага толку накшталт Уладзіміра Жырыноўскага? Ці магчыма паўтарэнне маскоўскай сітуацыі ў беларускім варыянце? Удзельнікі палітклуба паспрабавалі спрагназіраваць падзеі. Калі абагульніць іх выказванні, аб'яднаныя дэмакраты глядзяць на новыя выбары ў Беларусі рэалістычна, без ілюзій, не цешаць сябе надзеяй, што да ўлады прыйдуць дэмакратычныя сілы, аб чым засведчылі вынікі выбараў у Жодзінскай акрузе, якія выявілі пэўныя тэндэнцыі, вызначылі раскладку сіл. Пасля Таразевіча, які набраў большую колькасць галасоў, ідуць камуністы, на трэцім месцы — Беларускі Сялянскі Саюз. Прычына такога становішча ў недасведчанасці большасці выбаршчыкаў, слабай інфармаванасці. У Беларусі добра ведаюць дзве супрацьлеглыя сілы: КПБ і БНФ. Дарэчы, апошні ў негатыўным плане, «дзякуючы» прапагандзе саўмінаўскіх структур. Звесткі аб іншых партыях даволі цьмяныя і няпэўныя з-за іх малалікасці. Менавіта таму трэба выкарыстоўваць усе магчымасці выхаду ў радыё- і тэлеэфір, на старонкі газет і часопісаў, прапагандаваць свае погляды, ідэі, праграму. Нават негатыўная інфармацыя працуе на партыю, стварае рэкламу.

Бясспрэчна, прычына важкая. Але, на думку некаторых удзельнікаў пасяджэння, не асноўная. Сутнасць немагчымасці дэмакратычных перамен у адсутнасці новага закону аб выбарах, новай Канстытуцыі, якая б унесла змены ў дзяржаўнае ўстройства, тэрытарыяльнае дзяленне.

## ПАНОРАМА ПРИЛАВКА

### В САМОМ СТИЛЬНОМ СУПЕРМАРКЕТЕ – ШОУ

**Тамара МАРКИНА, «ДВ».**

**С 20 декабря, с понедельника, начинается расширенная распродажа товаров в Торговом доме на Немиге. И не простая, а праздничная распродажа с рождественским шоу.**

Наконец артисты пришли в торговлю. Это театр пантомимы «Жест». Всю неделю, по 28 декабря включительно, покупателей будут встречать вместе с вышколенными продавцами, элегантной охраной мимы из театра Вячеслава Иноземцева.

Но самое главное, конечно, это обилие товаров, цены на большое количество которых снижены на 25%. На импортные и того больше — до 50% ниже первоначальной стоимости.

На состоявшейся в среду пресс-конференции генеральный директор Торгового дома на Немиге Сергей Евгеньевич Гуринович сообщил:

— В день наш универмаг посещает до 15 тысяч человек. Практически каждый посетитель уходит с покупкой. По объему товарооборота торговый дом занимает одно из первых мест в республике.

Супермаркет постоянно имеет широкий ассортимент товаров. 30 процентов из них поступает централизованно с предприятий республики, остальные 70 торговый дом изыскивает сам. Многие минчане уже успели по достоинству оценить этот новый торговый центр рядом со станцией метро «Немига».

Наверное, зря говорят, что не красна изба углами. Побывав в Торговом доме на Немиге, те минчане, кому не довелось еще прорваться на запад, могут представить, какие у «них» магазины. Так как торговый дом — дитя белорусско-германского СП одноименного названия, и интерьер, в том числе и торговое оборудование — заслуга немецкой фирмы «Хартман».

С.Е.Гуринович сообщил, что Торговый дом на Немиге платит городу сполна, в том числе и арендную плату, в 40 раз превышающую ту, которую платят иные предприятия и учреждения. Кстати, вместе с тем он продолжает и строительство торгового комплекса.

При всех издержках и затратах деньги исправно направляются на обучение кадров за рубежом (преимущественно в Германии). Продавцы там не по нашему вышколены и любезны. Не верите — сходите сами в Торговый дом на Немиге за рождественскими подарками.

### ТАКОГА Ў МІНСКУ НЕ БЫЛО, АЛЕ БУДЗЕ, ЗАПЭЎНІЛІ ЖУРНАЛІСТАЎ

**Віктар СТРЫЖАК, «ДВ».**

Гэта прэс-канферэнцыя была праведзена з нагоды маючага адбыцца грандыёзнага мастацка-спартыўнага шоу ў Палацы спорту напярэдадні каталіцкіх Калядаў. А менавіта 24 снежня ў 19.00. Ініцыятарам шоу пад сімвалічна-зразумелым дэвізам «Барцы збіраюць сяброў» выступіла не так даўно створанае Беларускае спартыўнае таварыства імя Алега Караваева на чале са сваім прэзідэнтам, двухразовым чэмпіёнам свету, трохразовым чэмпіёнам Еўропы, чэмпіёнам Алімпійскіх гульняў па грэка-рымскай барацьбе Камандарам Маджыдавым.

На сустрэчу з журналістамі прыйшлі, акрамя прэзідэнта згаданага таварыства «са світай», наш славуты Аляксандр Мядзведзь, іншыя знакамітыя беларускія барцы, спонсары і галоўны рэжысёр праграмы «Барцы збіраюць сяброў».

Сустрэчу з журналістамі вёў віцэ-прэзідэнт таварыства імя Караваева двухразовы чэмпіён Еўропы і чэмпіён свету, бронзавы прызёр Алімпійскіх гульняў Сяргей Дземяшкевіч. У сваім уступным слове ён сказаў:

— Мы планавалі акцыю «Барцы збіраюць сяброў» прымеркаваць да правядзення матча барцоў ЗША — Беларусь, але арганізацыйных пытанняў аказалася зашмат, і мы не паспелі. Таму вырашылі ажыццявіць задуманае 24-га, якраз перад Калядамі. Што ж гэта за мерапрыемства? Саюз распаўся на асобныя краіны, у некаторых з іх праліваецца людская кроў. А амаль жа ва ўсіх рэспубліках жывуць нашы старыя сябры, з якімі сапернічалі і сапернічаем на барцоўскіх дыванах, з якімі выступалі ў свой час за агульную зборную. Вось нам і захацелася, каб лепшыя барцы сабраліся да нас — у Беларусь, каб наша рэспубліка, аўтарытэт якой у барцоўскім свеце трывалы ўжо шмат гадоў, зрабілася сапраўдным апірышчам для барцоў. Для тых, хто сваім талентам і працай заваяваў славу і сабе, і зямлі, якая іх узгадавала. Барцам дзяліць няма чаго. Спрачацца мы можам толькі на дыване.

У той жа час гэта і салідарнасць з барцамі розных нацыянальнасцяў, і прапаганда спорту, і проста свята дружбы і еднасці.

Камандар Маджыдаў, у сваю чаргу, расказаў, што на ўдзел у акцыі «Барцы збіраюць сяброў» ёсць дамоўленасць амаль са ста спартсменамі — чэмпіёнамі свету, Еўропы, Алімпійскімі чэмпіёнамі — з краін СНД. Прыедуць славутыя барцы з Арменіі, Казахстана, Расіі (Карэлін, Ярыгін), Украіны (Калчынскі) і іншых рэспублік.

Маджыдаў падкрэсліў, што чэмпіёны завітаюць у Беларусь не дзеля спартыўных адзінаборстваў, а толькі дзеля самой сяброўскай сустрэчы.

Гэта падкрэсліў і галоўны рэжысёр будучага свята Рыгор Майзельс:

— У Палацы спорту будзе сапраўднае шоу, якога дагэтуль у Мінску яшчэ не было. І называецца яно таму не спартыўна-мастацкім, а мастацка-спартыўным. Нават тэатралізаваным. У ім прымуць удзел папулярныя эстрадныя групы і салісты Беларусі. Цяжка было з імі дамаўляцца: у наш цяжкі час кожны творчы калектыў шукае магчымасці для «пракорму» за мяжой. І ўсё ж згоду далі многія. Напрыклад, «Сябры» на чале з Ярмоленкам. Яны, дарэчы, выканаюць «Барцоўскі марш», напісаны дзеля гэтага выпадку кампазітарам Мікалаем Сацурам на словы Петруся Макаля.

Выступяць таксама «Чараўніцы», якія на днях вяртаюцца з Грэцыі, духавы аркестр «Няміга», дзіцячы ансамбль «Равеснік», ансамбль «Купалінка», Дзяржаўны ансамбль танца і Віктар Вуячыч (яны зараз у Амерыцы), тэатр «Хрыстафор», іншыя вядомыя калектывы і выканаўцы. Будуць таксама ў праграме балетныя, цыркавыя нумары, нумары з удзелам тэатра пантамімы «Рух». Вядзём мы перамовы і з маскоўскімі артыстамі, але тут пакуль яснасці поўнай няма. Словам, практычна кожнаму чэмпіёну будзе прысвечаны нейкі нумар. Прадстаўленне кожнага спартсмена будзе праводзіцца «па-канадску», асабіста. Весці вечар згадзіўся папулярны спартыўны тэлерадыёкаментатар Уладзімір Навіцкі.

Ад арганізатараў акцыі «Барцы збіраюць сяброў» журналісты даведаліся, што ў гэты ж вечар адбудзецца ўрачыстае ўшанаванне Камандара Маджыдава, які развітваецца з актыўным спортам.

Зразумела, усіх цікавіў фінансавы бок гэтага грандыёзнага мерапрыемства. У сваім тлумачэнні дырэктар фірмы «Эмір» Ігар Кранчук паведаміў, што затраты на мерапрыемства вылічаюцца астранамічнай лічбай, але яго фундатарамі выступілі некалькі фірм. «Эмір» са свайго боку пакрывае ледзь не палову ўсіх выдаткаў.

На пытанне, колькі будзе каштаваць уваходны білет для гледачоў, быў атрыманы адказ: у межах 3000-5000 рублёў. 700 месцаў будзе занята гасцямі. Сярод апошніх чакаюцца прадстаўнікі фірм і арганізацый, якія прынялі непасрэдны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні акцыі, а таксама прадстаўнікі маскоўскага «Фонду Льва Яшына».

**Сергей РАЧИЛА, пресс-центр УВД г.Минска.**

### КАРМАННАЯ КРАЖА: ЛЬВОВСКИЙ ВАРИАНТ. ПЕНСИОННЫЙ...

**В СТОЛИЧНОМ ГУМе сотрудники оперативно-поискового отдела УВД Мингорисполкома задержали 61-летнюю пенсионерку С., приехавшую к нам из Львова. Видимо, испытывая острую нехватку белорусских «зайцев», украинка «позаимствовала» их у минчанки Х. Похищение кошелька не осталось без внимания милиции.**

**Кстати, это далеко не единичный случай, выявленный сотрудниками названного отдела на прошлой неделе. В канун выходных поисковики задержали минчанина, который подозревается в серии квартирных краж. Поговаривают, что эта серия исчисляется десятками. Впрочем, следствие еще только начинается.**

### «ПЕЙ ДО ДНА, ПЕЙ ДО ДНА!»

**ЗАВОДСКИМ РОВД возбуждено уголовное дело в отношении 40-летней неработающей минчанки З., которая 7 декабря после совместной пьянки в квартире 40-летней М. воспользовалась опьянением хозяйки и украла ключ от ее квартиры. Чуть позже из этой квартиры исчез золотой перстень...**

### НА СЛОВА НЕ РЕАГИРОВАЛ...

**РАННИМ УТРОМ из окон детского сада № 371 Первомайского РОНО посыпались битые стекла. Как оказалось, причиной стала вовсе не обнаруженная мина времен Великой Отечественной и даже не «самопальные» шалости подростков. Дело гораздо проще — разбушевался 27-летний сторож этого милого заведения Д., который в пять часов утра уже умудрился быть «под градусом».**

**Во время пьяной «акции» хулиган не расставался с кухонным ножом, что, впрочем, не остановило старшину милиции В.Чернуху из Первомайского РОВД. Один предупредительный выстрел старшины заставил убегающего сторожа остановиться и бросить нож.**

**Возбуждено уголовное дело.**

## ГОРСЭС ИНФОРМИРУЕТ

### КТО ПЛАТИТ, А КТО И РАСПЛАЧИВАЕТСЯ...

**Анатолий БЕЛОУС, «ДВ».**

Интересное все-таки явление — рынок. Особенно такой, как Комаровский, крытый. Походишь среди рядов изобилия, подивишься ценам, поглотаешь слюну. Увы, смуглые хозяева многих фруктов и овощей в цене особо не поступятся. Разве что сбросят сотню-другую, а то и тысячу, если приглянешься. Иное дело — стихийная торговля у входа на рынок. Вездесущие бабуси, не предлагающие вам, пожалуй, только автомат с полным боекомплектом, быстро заинтригуют любого. И торговаться с землячками-то проще. Словом, бери — не хочу. Но...

Поостерегитесь. Подчас хоть и товар здесь подешевле, и с виду он добротный, но... Придете домой, на зуб отведаете, а он то ли с душком, то ли просрочен, то ли еще с каким изъяном. И не дай бог, с радионуклидами. Ведь бабушка «божий одуванчик», торгующая ароматной связкой сушеных грибов, даже и не предполагает о их наличии. А о сертификате качества она и слыхом не слыхивала.

Такое предупреждение всем потенциальным покупателям настоятельно просили сделать сотрудники отдела гигиены питания горСЭС. И их тревоги вовсе не беспочвенны. Подтверждение тому — факт, который отмечен здесь на днях, и суть его такова. Один частник, минуя все инстанции, попытался сдать в кафе «Ласточка» 60 килограммов сушеных грибов, якобы из Ленинградской области. А работники кафе возьми и проверь их на содержание радионуклидов. И вот тебе раз — грибочки «засветились» цезием. Норма этого радиоактивного элемента оказалась превышена более чем в два раза. Вот бы кто-то попотчевал гурманов... Потому такое предупреждение не лишний раз будет уместно не только рядовому покупателю, но и работникам общепита и торговли. Будьте осмотрительны, требуйте соответствующие документы.

И еще факты к размышлению. На прошедшей неделе сотрудниками этого отдела в который раз забракованы партии вина, поступившего из Молдовы. В частности, несоответствие ГОСТам и нарушение технологии приготовления выявлены в партии из 3 тысяч бутылок марки «Алиготе», 1200 бутылок марки «Флоричка» и 10 тысяч бутылок марки «Совиньон». Низкое качество поступающих молдавских вин становится чуть ли не нормой...

К сожалению, нечем порадовать и лакомок. В «черный список» опять угодили кондитерские изделия из Чехии. В их составе обнаружено применение вредных химических красителей. Впрочем, грешат, с позволения сказать, такой технологией приготовления кондитерских изделий и Польша, и Хорватия. А потому не прельщайтесь броской фирменной упаковкой. Сначала выясните качество ее содержимого.

В ГОРОДАХ БЕЛАРУСИ

## «КОММЕРСАНТ» — ПРОФЕССИЯ ХЛЕБНАЯ?







В наше экономически очень трудное время «коммерсантами» становятся врачи и учителя, работники культуры и студенты, пенсионеры и домохозяйки. Теперь главное направление коммерческих поездок не Польша, а Москва, Санкт-Петербург, Смоленск. И Витебск стал в этих поездках отправным пунктом. «Штурмует» торговый люд каждый поезд или «дизель», направляющийся в Россию. А везут, в основном, продукты питания — творог, сливки, сметану, молоко, мясные полуфабрикаты, колбасу. Продав их в Санкт-Петербурге по номинальной стоимости в Беларуси, но за российские рубли, «коммерсант» имеет неплохой навар, исходя по курсу рубля. В самом же Витебске приобрести эти продукты практически стало невозможным.

Одиннадцати работников таможенной службы, что круглосуточно несут службу на вокзале Витебска, явно недостаточно для осмотра пассажиров всех поездов, отправляющихся в Россию. Вывоз товаров и продуктов продолжается. Последнее подорожание продуктов в Беларуси на «бизнес» торговцев не повлияло. Рубли по-прежнему в цене.

**НА СНИМКАХ:** на российский базар едут и молодежь, и старики; так выглядит перрон перед отправкой поезда Полоцк–Москва; обмен российских рублей на «зайчики» в Витебске на каждом углу.

Фото Александра ХИТРОВА, БЕЛИНФОРМ.

АКТУАЛЬНА

# БЕНЗІНУ МАЛА. ЁН ФАНТАСТЫЧНА ДАРАГІ. ЗНАЧЫЦЬ, ГЭТА КАМУ-НЕБУДЗЬ ТРЭБА

*Менавіта так лічаць у Мінскім гарадскім упраўленні па антыманапольнай палітыцы і развіццю прадпрымальніцтва*

**І падстаў гэтаму зашмат. Ну, няздатна дзяржава даліць «пад завязку» аўтаамататару паліва, дык чаго ж прасцей — даць шанц прадпрымальнікам забяспечыць бензінам уладальнікаў персанальных «аўта»! Тым больш, што піянеры рынку цыстэрнамі (калі не чыгуначнымі саставамі) могуць шураваць бензін на Беларусь. У надзеі зрабіць свой бізнес на радзіме. У такім жа парадку «беларускі» бензін ад'ехаў за кардон: ці то ў Польшчу, ці то ў Балтыю. Прычына? Рэалізаваць гэты тавар у нас законна практычна нельга.**

**Вось што расказаў з гэтай нагоды начальнік Мінскага гарадскога ўпраўлення па антыманапольнай палітыцы і развіццю прадпрымальніцтва спадар Рым Рыгоравіч Мухтасараў:**

— Гэта менавіта так. Прадпрымальнікі аніяк не могуць саставіць канкурэнцыю нязграбным дзяржструктурам, якія забяспечваюць Беларусь нафтапрадуктамі. Гэта сцвярджае і такі вось факт. За апошнія два гады Дзяржкамнафтахім выдаў толькі 5 ліцэнзій на гандаль бензінам і іншым нафтапалівам. Такім занадта простым бюракратычным шляхам дзяржава манапалізавала гандаль транспартным палівам, застопарыла святы рыначны закон: чым болей гандляроў пэўным таварам, тым больш гэтага тавару. А значыць, ён і каштаваць будзе танней.

Каб неяк дапамагчы прадпрымальнікам, упраўленне з дазволу ўрада ўзялося за ліцэнзаванне рознічнага гандлю гаруча-змазачнымі матэрыяламі ў горадзе Мінску. Былі выдадзены адпаведныя рашэнні Мінгарвыканкама ад 31 жніўня за № 473 «Аб выдачы ліцэнзій на рознічны гандаль гаруча-змазачнымі матэрыяламі» і за № 548 ад 30 верасня «Аб унясенні змен у Палажэнне «Аб выдачы ліцэнзій на рознічны гандаль гаруча-змазачнымі матэрыяламі». Апошнім крокам Мінгарвыканкама было рашэнне № 637 «Аб парадку рэалізацыі гаруча-змазачных матэрыялаў на тэрыторыі г.Мінска». Ім былі адменены папярэднія два. Штуршком да яго паслужыла пастанова Саўміна «Аб удасканаленні парадку ўвозу і перапрацоўкі нафты, рэалізацыі нафтапрадуктаў у Рэспубліцы Беларусь».

За гэтым шэрагам рашэнняў і пастаноў стаіць няпростая работа ўпраўлення і шэрагу службаў Мінгарвыканкама. Вялікія намаганні так называемага малога і вялікага бізнесу зарабіць сумленна свае грошы на гэтым залатым нафтавым дне. Самыя ўпартыя мінчане-прадпрымальнікі атрымалі 38 ліцэнзій на продаж бензіну і іншых гаруча-змазачных матэрыялаў.

Па сённяшні дзень, на жаль, рэальна працуюць толькі 4 такія прадаўцы. Але ж з якім скрыпам, з якой натугай!

Аб гэтым і гаварылі яўныя і патэнцыяльныя камерсанты — прадаўцы бензіну на нядаўнім сходзе, які праводзіў спадар Р.Р.Мухтасараў.

Па-першае, ліцэнзія на рознічны гандаль гаруча-змазачнымі матэрыяламі можа выдавацца толькі на 2 месяцы і гандлююць камерсанты на спецыяльна адведзеных райвыканкамамі месцах. Дарэчы, гэта не проста пустэчы і іншыя, далёкія ад жытла і іншых збудаванняў месцы. Сваё «дабро» на выкарыстанне пляцовак пад гандлёвыя кропкі павінны даць санэпідслужбы, пажарныя, ДАІ і іншыя адказныя інстанцыі.

— З дапамогай Галоўмінскархітэктуры, якая падрадзілася сабраць неабходныя подпісы, — расказвае Р.Р.Мухтасараў, — у нашых прадпрымальнікаў з'явіўся шанц. Але не тут тое было! Палкі ў колы стаў ставіць Дзяржкампраматамнагляд. Інструкцыю на транспарціроўку паліва ён змог выдаваць толькі на 20-22 дзень (і гэта пры 2-месячным дзеянні ліцэнзіі).

Не менш капрызным аказаўся і Дзяржстандарт. Яго інстанцыі сталі патрабаваць ад камерсантаў, якія хочуць гандляваць бензінам, для больш дакладнага замеру прымайстроўваць да цыстэрнаў нейкія ёмістасці. А ёсць жа лічыльнікі на бензавозах. Ёсць і талоны разліку з пакупнікамі: праверце і падлічыце, калі ласка! Не, марынуюць... Менавіта гэтыя дзве дзяржструктуры не даюць разьвярнуцца бізнесменам.

Шкада, што тыя, ад каго залежыць насычанасць рынку бензінам, не дапамагаюць адкрыць кранік камерцыйнага паліва, а наадварот, сваёй бяздзейнасцю, забюракратызаванасцю ўсяляк закрываюць яго.

Мы спадзяёмся, што адказныя асобы з вышэйпералічаных дзяржаўных структур адмовяцца ад залішніх амбіцый і ў гэты цяжкі для беларускай эканомікі час больш цвяроза і патрыятычна аднясуцца да праблем забеспячэння Беларусі і Мінска, у прыватнасці, бензінам. Дакуль будзем аддаваць перавагу дзяржаўным арганізацыям, якія не ўмеюць своечасова забяспечваць патрэбы беларускіх аўтамабілістаў? Пара прадпрымальнікам, якія жадаюць гандляваць бензінам, развязаць рукі.

ЭКАНАМІЧНЫЯ ВЕСТКІ

## «ГЭТА НЕ САНКЦЫІ, АЛЕ...»

Каля 30 мільярдаў расійскіх рублёў і да 270 мільёнаў долараў у СКВ маюць сёння на сваіх рахунках беларускія прадпрыемствы. Гэтыя лічбы назваў на днях старшыня праўлення Нацыянальнага банка С.Багданкевіч.

Ён заўважыў, што маючы гэтыя сродкі, прадпрыемствы ўсё ж патрабуюць крэдытаў у беларускіх рублях. І Нацыянальны банк рэкамендаваў камерцыйным банкам устрымлівацца ад іх крэдытавання. «Але гэта не санкцыі, — адзначыў С.Багданкевіч. — Калі ім трэба беларускія рублі, хай прадаюць валюту і расійскія рублі. Мы гатовыя выкупляць іх па існуючаму курсу». Такі падыход тлумачыцца недахопам расійскіх грошай для міжнародных разлікаў. А беларускія, як вядома, і сама Беларусь адзіным плацежным сродкам не прызнала, і ў расійскія яны на міждзяржаўным узроўні ну ніяк не канверсуюцца і не ператвараюцца.

## КОЛЬКІ КАШТУЕ КАМФОРТ?

Пяць мільярдаў расійскіх рублёў у суткі — столькі каштуе аб'ём прыроднага газу, які штодзённа спажываецца ў Беларусі. «Газу ідзе колькі трэба, а хто будзе плаціць?» — пытаюцца беларускія газавікі пасля чарговай адтэрміноўкі і даюць зразумець, што расплата ў канчатковым выніку выпадае на спажыўцоў. А пакуль запазычанасці па газу растуць больш хутка, чым пагашаюцца.

Вядома, спажыванне газу насельніцтвам непараўнальнае з тым, што неабходна для нармальнай працы прамысловасці і энергетыкі. Але і дробязі могуць мець рашучае значэнне. Напрыклад, калі па ўсёй рэспубліцы адразу, на кожнай кухні, у кожным чайніку закіпяціць па літру вады, то спажытага на гэта газу хопіць на суткі мікрараёну з 50 тысячамі жыхароў...

## БУДУЦЬ АКЦЫІ, БУДЗЕ І НАФТА?

Хутчэй за ўсё будзе рэалізавана папярэдняе пагадненне аб сумесным акцыяніраванні беларускіх і расійскіх прадпрыемстваў паліўна-энергетычнага комплексу. Плануецца стварыць такое акцыянернае таварыства з удзелам Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода, ВА «Гомельаблнафтапрадукт», расійскіх «Мегионнефтегаз» і «Брянскоблнефтепродукт». Расійскі бок пры гэтым гарантуе пастаўкі на завод штогод 8 мільёнаў тон нафты. Не менш за палову пасля перапрацоўкі будзе гарантавана заставацца ў Беларусі. А можа і болей: ужо цяпер 80 працэнтаў нафтапрадуктаў, атрыманых з «камерцыйнай» нафты, рэалізуецца ў Беларусі. На думку спецыялістаў Дзяржкамітэта па нафце і хіміі, паступова пераадольваецца сітуацыя, калі бензін ад нас толькі вывозілі і ніхто не жадаў яго завозіць.

Падрыхтаваў Андрэй ПАТРЭБІН, «ДВ».

ПРОДОЛЖАЕМ РАЗГОВОР

# ЭПИДЕМИЯ ЖЕСТОКОСТИ

Галина ГОЛОВАТАЯ.

**Думаю, это самая страшная из всех эпидемий, грозящих людям. Мы становимся все бесчувственней. И растим такими же наших детей. Быть может, и не задумываясь над этим.**

**После публикации материала «Собачники» («ДВ», 11.10.93) мы получили много откликов. Конечно же, писали и звонили не только единомышленники. Неприятно было, например, разговаривать по телефону с мужчиной (по голосу — пожилым), который непременно хотел узнать адрес службы. Поначалу, было, обрадовалась: вот, думаю, человек захотел приютить, спасти собачку какую-нибудь. Но, перебивая мои мысли, этот человек докладывал: «У нас тут в подъезде кошек развелось! Я их всех выловлю и отвезу на усыпление». Жаль, что публикация, целью которой было прежде всего желание разбудить в людях сострадание и добрые чувства, вызвала и такую крайнюю реакцию.**

**А бездомных собак и кошек на улице и в самом деле становится все больше. Люди выбрасывают их из дома, оправдываясь тем, что сами не прокормятся. Только ведь еще не в самое тяжелое время живем. И еще не похудели (что, кстати, многим из нас пошло бы на пользу).**

**Не задумываемся даже над тем, какое горе, травму приносим детям, которые не могут защитить своих маленьких друзей. Только ничто не проходит бесследно. Детей воспитывает каждое слово, поступок. И, кто знает, выбрасывая на улицу беспомощного котенка на глазах у ребенка, не обрекает ли этот человек себя на перспективу коротать остаток дней в богадельне?**

**Продолжая разговор о животных и о нас, публикуем сегодня некоторые из писем, пришедших в редакцию.**

## НАЙДИ МЕНЯ, ДРУГ!

Роза РУБИНЧИК.

Думаю, в это смутное время особенно важно разобраться в нашем отношении к животным. Ведь, относясь к ним негуманно, мы звереем сами.

Очень бы хотелось отстоять право животных на жизнь в городе, причем нормальную жизнь.

А для этого в Минске просто необходимо создать приют для бродячих, брошенных животных и для тех, кого хозяева по разным причинам хотят оставить на какое-то время.

Так делают во всем мире, так делают уже в Москве и других городах. Предлагаю обратиться с призывом к структурам, занимающимся благотворительностью. Иначе говоря — призвать спонсоров, которые сейчас помогают выживать нашей медицине, театрам, спорту.

И я уверена, такие люди найдутся. Как уверена в том, что государственные чиновники ничего делать не будут.

В Минске есть единственное место, где продают животных, — это Сторожевский рынок. Я часто там бываю (живу рядом). И мне больно смотреть, как люди, вырастившие щенков и котят, часто мокнут под дождем, не имея нормального места для продажи.

Администрация же рынка ничего не делает, чтобы создать для людей нормальные условия. Более того, введен разовый сбор: за щенка — 500 р., за котенка — 100 р. Но ведь это возмутительно, потому что для большинства продавцов такая продажа — не источник дохода. Они ищут добрых хозяев для своих питомцев.

Другое дело — продажа рыб, кроликов, когда люди сознательно разводят их, ради заработка занимаются этим постоянно. Но брать со школьника деньги за то, что, вырастив котят, он пришел отдать их добрым людям, считаю несправедливым.

Хочу уточнить, что речь здесь идет об обычных домашних животных, т.к. породистые, как правило, стоят дорого и реализуются через клубы. Давайте же поможем простым животным и добрым людям находить друг друга!

**А недавно автор письма позвонила в редакцию и предложила щенят. Их у нее четверо: Бим, Жула, Нежа и Малыш. К сожалению, Розе с ними придется расстаться — стольких не «воспитать».**

**Поэтому, если кто желает обзавестись маленьким четвероногим дружочком, звоните по телефону 37–54–40.**

## НЕНАВИСТЬ ПОРОЖДАЕТ НЕНАВИСТЬ

Валерий АНИЩЕНКО, инженер, собаковод-любитель.

Тот, кто не любит животных и никогда не держал их при себе, меня вряд ли поймет. И все же попытаюсь до него достучаться. Ибо, когда в собаку стреляет милиционер — это одно, а когда делать это призывает депутат (а довелось читать и такое, о чем чуть позже) — совсем другое.

В одном из европейских зоопарков есть пустая клетка с зеркалом внутри и надписью: «Самый опасный (жестокий) хищник на Земле». Прочитав в «Вечернем Минске» заметку народного депутата Первомайского райсовета Валерия Грицука «Собака — друг человека или конкурент?», я подумал: не мешало бы, чтобы такая клетка появилась и в нашем городе. Основная мысль автора такова: собака в городской среде — это дискомфорт и угроза здоровью и жизни людей. И потому, если она «не на поводке, без намордника, хозяина рядом (!?) нет — стрелять». Такое вот жестокое перо народного избранника. Страшно, если это внутреннее убеждение автора, и еще тяжелее, если это — начало кампании по сбору голосов определенной части избирателей.

Безусловно, люди держат собак не только для охраны. Им порой тоскливо от одиночества, дефицита доброжелательности, любви, положительных эмоций. Пес платит всегда преданностью и бескорыстной взаимностью. И потому врачи, исследовавшие все стороны дружбы с животными, уже доказали, что она исцеляет — понижает кровяное давление, снимает стрессы, успокаивает. Человека может испугать любое живое существо, даже такое крохотное, как пчела или муравей. Но это не значит, что их надо немедленно уничтожить. По поводу испуганных детей хочу высказать личное наблюдение: в семьях, где живут собаки, дети вырастают более добрыми, совестливыми, не столь эгоистичными и, как правило, их никогда не кусают собаки. Животные разбираются в людях куда лучше нас.

Теперь о «собачьей» еде. Многие с дотошностью и скрупулезностью подсчитывают каждую лишнюю тарелку супа или каши для четвероногого друга. Но кто подсчитал, какие убытки терпим мы еженедельно от крыс и мышей, расплодившихся в последнее время в городах благодаря бездействию санстанций и властей? Не объявить ли в таком случае «крестовый поход» на голубей, ворон, воробьев? Это уже делали в Китае, а потом стыдились содеянного, ибо гусеницы и саранча расправились вмиг с урожаем.

Стоит поразмышлять и о финансовой стороне вопроса. До 1 сентября за право содержать собаку я ежемесячно платил 660 рублей. Если верить данным депутата о том, что в городе около 30000 собак, то они каждый месяц приносят городской казне около 20 миллионов рублей дохода. Этого могло бы хватить для оборудования нескольких пустырей в каждом районе под выгул собак. Но их как не было, так и нет.

И, наконец, о главном. Человек приручил собаку и несет ответственность за нее перед Богом и собственной совестью. Но если насильно разорвать эту связь, ущерб понесет человек и его нравственность. Ничто так не опустошает душу, как ненависть. Ибо она рождает только ненависть. Не желал бы я заглянуть в глаза мальчишке, у которого только что застрелили его четвероногого друга. Это травма на всю жизнь.

СУВЯЗЬ

## СЛОВА — НЕ «ЗАЙЧЫК». ЯНО ЗНАЧНА ДАРАЖЭЙ

Міхаіл ГАВАРЭНЬ, «ДВ».

У пачатку снежня па вул. Сурганава, 24 адкрыўся цэнтральны перагаворны міжнародны пункт (дакладней, пакуль што тут можна звязацца з іншымі краінамі толькі па тэлефоне; у памяшканнях, дзе будуць размяшчацца электронная пошта і факсімільная сувязь, устанаўліваецца абсталяванне).

Колькі ж сёння каштуе хвіліна размовы па тэлефоне? З населенымі пунктамі Беларусі — 40 рублёў (па Мінскай вобласці — напалову танней). Размова з Расіяй каштуе 240, а з Украінай — 200 рублёў за хвіліну.

Сувязь з краінамі Балтыі значна даражэй (з Літвой — 1000, Латвіяй — 1100, Эстоніяй — 1200 рублёў), на ўзроўні астатніх краін Еўропы. Напрыклад, з Чэхіяй — 1300, Харватыяй — 1400 рублёў.

Чым далей краіна, тым даражэй размова. Верхняя мяжа — 6600 рублёў за хвіліну. Неяк выпадае толькі Уругвай. Калі вы раптам вырашылі неадкладна патэлефанаваць у Мантэвідэа, то памятайце, што кожная хвіліна вам абыдзецца ў 11640 рублёў.

Што ж, нават вельмі гаварлівым трэба быць зусім лаканічнымі і абыходзіцца ў міжнародных размовах мінімумам слоў. Бо з кожным словам вылятае не верабей, а сама менш «воўк» ці нават «рысь».

ПРЕДСТАВЛЯЕМ

# ХОЧЕШЬ БЫТЬ КРАСИВОЙ? СТАНЬ ЕЙ!

Михаил ВАЛЬКОВСКИЙ, «ДВ».



Мы все хотим быть красивыми и здоровыми.

И, кажется, уже все согласны, что здоровый образ жизни куда как лучше всякого иного. Как известно, в пресыщенном западном обществе настоящим фетишем стали экология и здоровый образ жизни, грань между которыми провести порой невозможно. Там давно поняли, что не заботиться о своем здоровье, не заниматься спортом — себе дороже.

Большую активность в заботе о здоровье, фигуре, внешности традиционно проявляет слабый пол.

Однако в эпоху торжества чудодейственных пилюль, множества самых противоречивых нетрадиционных оздоровительных систем мысль о том, что сохранить здоровье, приобрести хорошую фигуру можно не голодая до обмороков, без иного подобного изуверства и насилия над организмом, а получая максимум удовольствия и положительных эмоций, кажется, еще не овладела массами. Только этим можно объяснить, что в клубе «Светлана» занимаются американской аэробикой три группы, а не тридцать.

Организовала этот клуб и ведет занятия Светлана Кашицкая — четырехкратная (1989-1992 гг.) чемпионка Беларуси по аэробике. (Перед этим — семь лет занятий художественной гимнастикой, три года — синхронным плаванием.)

Теперь же три раза в неделю она проводит занятия в арендуемом зале РТИ и ФОКе «Серебрянка». Занимаются в клубе аэробикой женщины всех возрастов и профессий. Не редкость, когда на занятия приходят мать с дочкой. Конечно, каждая приходит в клуб со своими проблемами: кто — совершенствовать свою фигуру (ведь впереди лето), снова почувствовать себя красивой женщиной с осанкой королевы, кто — научиться красиво ходить, уверенно держать себя, вернуть природную пластику. Для коррекции телосложения к их услугам в клубе также бассейн, сауна, тренажерный зал, массаж. Можно получить консультации специалистов по этим и иным проблемам. Результаты налицо: не редкость, когда за год женщина худела на десять килограммов.

— А многие приходят, — говорит Светлана, — чтобы обрести друзей, пообщаться, поднять настроение. (Ведь у нас в городе практически нет мест, где можно спокойно пообщаться с единомышленниками, и какие на Западе называются клубами из-за атмосферы в них.) Здесь, в клубе, мы вместе празднуем все праздники, разговариваем, просто танцуем. Ведь так важно, чтобы женщины заботились о своей внешности, знали, что существует не только работа, очереди, хлопоты по дому, но и место, где они могут отдохнуть. Надо, чтобы хотя бы час они посвящали себе, чувствовали себя женщинами. Час занятий аэробикой дает заряд энергии, хорошего настроения на целый день. В нашем клубе можно выбрать удобное для занятий время, мы же определяем новичков в зависимости от их физического состояния в различные группы (для начинающих, для интенсивных занятий и т.д.).

Никому из желающих заниматься аэробикой мы не отказываем. Клуб очень демократичен: возраст, вес, профессия или уровень доходов не препятствие для того, чтобы заниматься в клубе «Светлана». Сам клуб и аэробика — доступны каждому.

... Эпоха развитого социализма все-таки оставила нам дворцы спорта и ФОКи, стадионы и теннисные корты. Сегодня же число бесплатных детско-юношеских школ и секций уменьшается, а платных клубов для взрослых — увеличивается. К сожалению, не во всех из них работают такие специалисты и энтузиасты, как в клубе «Светлана» (тел. 59-73-83).



